Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА

# Газета для вас

9 ліпеня 1997 года.
СЕРАДА
№ 30
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1.000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ



*ІВАЦЭВІЧЫ. Зінаіда Міхайлаўна Асяледзька і Таццяна Леанідаўна Ермачок (на здымку) працуюць у Быценскім цэху дрэваапрацоўкі, ганарацца сваёй прафесіяй. Многае атрымліваецца ў іх: прыйшло ўменне і спрыт, заваявана рэпутацыя сумленных і працавітых, ёсць аўтарытэт сярод таварышаў.*
***Фота А. ГАНЧУКА.***

● *ПАСЛЯ ПАДЗЕІ*

## У НАС – ГУЛЯНКА

Як вядома, у час свайго наведвання Целяханаў, 28 чэрвеня г. г., Прэзідэнт Беларусі А. Р. Лукашэнка паставіў перад кіраўніцтвам пацярпелых ад урагану раёнаў Брэстчыны дакладную задачу: пашкоджанае і разбуранае жыллё аднавіць да 3 ліпеня г. г., да свята незалежнасці – Дня Рэспублікі;

да канца ліпеня аднавіць і адрамантаваць вытворчыя памяшканні;

да 7 лістапада на месцы знішчаных ураганам лесу пасадзіць новыя сажанцы.

Цяпер ужо можна канстатаваць, што першая задача (аб аднаўленні пашкоджанага і разбуранага жылля) нявыканана ў вызначаны тэрмін. У гэтым можна пераканацца, калі праехаць па гарадскім пасёлку Целяханы і вёсках гэтай зоны, пацярпелых ад урагану. Хаця зроблена нямала, але да завяршэння работ па аднаўленню жылля яшчэ далёка. З поўнай доляй верагоднасці можна меркаваць, што і другая, і трэцяя задачы, пастаўленыя Прэзідэнтам, будуць гэтак жа нявыкананы ў вызначаныя тэрміны, як і першая. Чаму? Прычынаў шмат.

Першая, відавочная. Памеры урону, нанесенага ўраганам, зусім не стасуюцца з тымі сіламі і сродкамі, якія кінуты на ліквідацыю вынікаў бяды. Толькі на Целяханшчыне пашкоджаны і разбураны больш за 2000 жылых дамоў, каля 200 гаспадарчых пабудоў, пашкоджаны больш за сем тысячаў гектараў пасеваў, знішчаны дзесяткі гектараў лесу, больш за 100 кіламетраў ліній электраперадач. Па прыблізных толькі падліках урон, нанесены Целяханшчыне, вылічваецца сумай у 100 мільярдаў рублёў. Дзяржава ж выдзеліла Брэстчыне, у якой ад урагану пацярпела шэсць раёнаў, 6 мільярдаў рублёў. Дадамо сюды дапамогу Расіі, унутраныя рэзервы будаўнічых матэрыялаў, сродкі ад суботніка... і ўсё роўна знак роўнасці паміж бядой і яе ліквідацыяй цяпер паставіць не ўдасца...

Пазваніў у рэдакцыю "Газеты для вас" жыхар гарадскога пасёлка Целяханы Сяргей Канановіч (прынамсі, ён назваўся), размову пачаў з выказвання свайго захаплення святочнымі мерапрыемствамі, якія праходзілі ў Мінску 3–5 ліпеня.

– Нічога падобнага ў Беларусі не даводзілася бачыць, – сказаў ён. – Парад войскаў – нібы ў памятныя часы ў Маскве, дэманстрацыя спартыўных і мастацкіх талентаў, водная феерыя ўражвалі настолькі, што, здаецца, пра ўсё на свеце забыць гатовы... Якія фарбы, касцюмы, атракцыёны, якія танцы і песні! Адзін Ярмоленка што значыць – як заспявае "...у нас гулянка" – дык ногі самі ў скокі ісці хочуць...

Глядзеў, глядзеў я тэлевізар (хата мая нямоцна пашкоджана ўраганам, толькі некалькі лістоў шыферу сарвана было) і раптам задумаўся: а колькі ж такое свята каштаваць можа? Па паведамленнях некаторых сродкаў масавай інфармацыі (у тым ліку ГРТ) – каля 50 мільярдаў рублёў. Тады падумалася: а гэтыя ж святкаванні, гэтую воклечную песню Ярмоленкі ў маёй хаце глядзіць і слухае толькі мая суседка, у якой хата яшчэ не адрамантавана ды тэлевізар сапсаваўся і няма грошай, каб яго адрамантаваць...

Усё гэта глядзяць і слухаюць дзеці ў анкалагічных аддзяленнях бальніцаў, іх бацькі, якія не маюць грошай на тое, каб павезці дзяцей за мяжу на лячэнне і выратаванне...

маладыя сем'і, якія не маюць грошай, каб купіць кватэру, і таму туляцца гадамі ў інтэрнатах...

хворыя, якія не могуць легчы ў бальніцу на лячэнне, бо ў іх няма грошай на медыкаменты...

тыя жыхары кватэраў (ёсць такія і ў Целяханах), якія ўжо па некалькі месяцаў не плацяць з-за адсутнасці грошай за пражыванне і іскі на якіх ужо ляжаць у судах...

дырэктары і класныя кіраўнікі школаў, якія вымушаны весці летам рамонт пакояў, выпрошваючы фарбу і іншыя матэрыялы ў бацькоў...

беспрацоўныя, якія не знаходзяць прымянення сваім ведам і вопыту...

інваліды, мізэрнай пенсіі якіх ледзь хапае на хлеб (які дарэчы, у Івацэвіцкім раёне з 3 ліпеня стаў каштаваць 6 тысяч рублёў за булку)...

Што яны думаюць – усе гэтыя людзі – названыя і не названыя? – пытаўся Сяргей Канановіч.

Ну, скажыце, знойдуцца такія Канановічы. Адкажы ім на тое, што, здаецца, мала каго цікавіць. Лепш спевака Ярмоленку паслухаць. У нас жа – гулянка...

## Лёсаносны рух па вертыкалі

**БАРАНАВІЧЫ.** Яшчэ адзін кіраўнік з горада падняўся ўверх па вертыкалі – намеснікам старшыні аблвыканкама стаў былы старшыня Баранавіцкага гарвыканкама Валерый Мікалаевіч Захарчанка. На яго месца вылучан дырэктар завода гандлёвага машынабудавання Міхаіл Якаўлевіч Паўлаў. Ён прайшоў выдатную школу работніка вытворчасці і кіраўніка. Падняў на „ногі" завод „Гандальмаш" і ўтрымаў яго ад развалу ў нялёгкія часы перабудовы. Дай Божа, каб ажыццявіў Міхаіл Якаўлевіч такі ж уздым цяпер усёй прамысловасці горада.

## Усё! Адвучыліся, адскакалі...

ІВАЦЭВІЧЫ. Кружацца ў белых сукенках дзяўчаты, употай выціраюць слёзы бацькі, са шчымлівым здзіўленнем глядзяць на сваіх былых вучняў настаўнікі – выпускны баль! У руках – атэстаты аб сярэдняй адукацыі, 49 чалавек атрымалі разам з ім медалі.

Так было і дзесяць гадоў таму, і 50. Так будзе, напэўна, заўсёды. Гэты вечны, няўвядальны "Школьны вальс", які добра памятаюць іх бабулі і дзядулі. Гэта мора кветак, гэта пажаданні на дарогу ад настаўнікаў. Гэта агульнае застолле, дзесьці вельмі пышнае, а дзесьці больш хатняе. І пільны нагляд бацькоў за сваімі отракамі, каб не перабралі, каб паводзілі сябе прыстойна і не сапсавалі ўрачыстасць. Гэта сумесная сустрэча світання.

Усё! Адыграліся, адвучыліся, адскакалі. Цяпер паглядзім, рабяты, на што вы здольныя.

## Хто глядзеў у неба, хто – у чарку

**Бяроза**. На аэрадроме "Асаўцы" ў трэцяй палове дня 27 чэрвеня адбылося грандыёзнае відовішча, сведкамі якога было мноства жыхароў райцэнтра і навакольных населеных пунктаў. Тут Бярозаўскі авіяполк святкаваў сваё 55-годдзе. Фігуры вышэйшага пілатажу дэманстравалі звышгукавыя знішчальнікі і верталёты. Неба было расквечана і каляровымі парашутамі, якія парашутысты ўмела скіроўвалі на аэрадром.

Любоў да авіяцыі, якую прадэманстравалі жыхары Бярозаўшчыны, была рознай. Нехта захапляўся на аэрадроме палётамі знішчальнікаў, а нехта, захапіўшы з дому важкую сумку з моцнымі напоямі, больш глядзеў у чарку. Выпіўка пад гром матораў, кажуць сведкі, здаецца вельмі імпазантнай...

## Чытальная зала справіла наваселле

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Чытальная зала раённай бібліятэкі імя П. Пестрака пакінула свае цесныя і змрочныя пакоі і перабралася праз калідор на новыя плошчы – у пласторныя і светлыя чыноўніцкія апартаменты, якія раней займаў гарсавет. Цяпер ёсць месца дзе захоўваць кніжны фонд, дзе скласці шматлікія падшыўкі газет і часопісаў, дзе не ў цеснаце пасядзець наведвальнікам.

Някепска было б чытальнай зале прыдбаць новую мэблю, але пакуль гэта з катэгорыі нязбытных надзей: бракуе грошай.

## Банкіры вучаць, як зарабляць грошы

БАРАНАВІЧЫ. Пад эгідай тутэйшага аддзялення Беларускага прамыслова-будаўнічага банка праведзен семінар з умоўнай назвай "Як рабіць грошы?" Прадстаўнікі буйных навуковых цэнтраў і банкаў Беларусі, якія зубы з'елі ў бізнесу і маркетынгу, з кіраўнікамі прамысловых прадпрыемстваў горада вывучалі праблемы выхаду з эканамічнага тупіка. Вучоныя і банкіры далі канкрэтныя парады гаспадарам, як рабіць грошы, выкарыстоўваючы вытворчы патэнцыял сваіх прадпрыемстваў. Дасягнута дамоўленасць такія сустрэчы праводзіць рэгулярна.

## Каб папярэдзіць лясныя пажары

Івацэвічы. У сувязі з сухім, спякотным надвор'ем, што ўсталявалася на тэрыторыі раёна, пачалі ўзнікаць лясныя пажары. Так, толькі 29 чэрвеня, калі слупок тэрмометра падняўся вышэй паказальніка 30-ці градусаў гарачыні, успыхнулі адразу тры лясныя пажары: паблізу в. Ябланка на землях Івацэвіцкага лясгаса, паблізу г. п Целяханы на лясных угоддзях калгаса "Расія". Трэці, самы моцны пажар быў у лесе, што належыць Целяханскаму лясгасу ў непасрэднай блізкасці да пабудоў гэтай арганізацыі і стварыў яўную пагрозу лесапільнаму цэху. У выніку знішчанымі аказаліся 2 гектары сасновага лесу, які, дарэчы, і без таго моцна пацярпеў у выніку ўрагану, што абрынуўся на Целяханшчыну.

Зыходзячы з падобных абставін, у мэтах прадухілення ўзнікнення пажараў Івацэвіцкім райвыканкамам 30 чэрвеня прынята распараджэнне № 207, згодна з якім з 1 ліпеня і да асобнага распараджэння забараняецца ўезд аўтатранспарту і наведванне насельніцтвам лясоў без дазволу на гэта органаў лясной гаспадаркі. Адміністрацыйнай камісіі, органам лясной гаспадаркі, пажарнай службе, аддзелу ўнутраных спраў рэкамендавана прыцягваць да строгай адказнасці службовых асоб і грамадзян, якія парушаюць супрацьпажарныя нормы і правілы.

З 15 ліпеня па 15 жніўня ў раёне праводзіцца месячнік пажарнай бяспекі. Мэта яго – узмацніць пажарную бяспеку, знізіць колькасць пажараў у пажаранебяспечны перыяд.

## Іх імёнаў няма на помніках

БАРАНАВІЧЫ. Пры правядзенні земляных работ на ўчастку пракладкі газаправода "Еўрагаз" будаўнікі наткнуліся на безыменнае пахаванне сямі воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Знойдзены таксама саперная рыдлёўка, патроны, падсумак для іх, гузік з зорачкай, біклага, нож, шкельцы процівагазаў.

У вёсцы Сталовічы адбылося перазахаванне астанкаў воінаў. На журботную цырымонію да сваіх выратавальнікаў прыйшла ўся вёска. Падчас мітынгу называлася жудасная лічба: цяпер на тэрыторыі Баранавічаў і раёна пахавана больш за 100 тысяч салдат мінулай вайны. Але вядомыя імёны крыху больш за тысячу чалавек – адзін працэнт ад пахаваных. Цяжка на сэрцы ад нявыкананага абавязку нашчадкаў перад загінуўшымі.

Памяць, набатам гучы, слухай...

## Дзяржстрах дапамагае...

ІВАЦЭВІЧЫ. Аддзяленне Дзяржстраху па Івацэвіцкаму раёну ў спешным парадку вядзе выплаты страхавых кампенсацый тым грамадзянам целяханскай зоны, дамы і гаспадарчыя пабудовы якіх пацярпелі ад урагану. Па папярэдніх падліках каля 2000 дамоў жыхароў Целяханшчыны былі разбураны або пашкоджаны стыхіяй. Насельніцтву аддзяленне Дзяржстраху выплаціць каля аднаго мільярда рублёў. Сумы страхавых кампенсацый гаспадаркам і прадпрыемствам, дзе былі разбурэнні, яшчэ ўдакладняюцца.

## 11 ЛІПЕНЯ – ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ ІВАЦЭВІЦКАГА РАЁНА АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ

**Я, аўтар запісак з цыклу „Легенды і былі маёй роднай вёскі”, якія публікуюцца ніжэй, хачу паведаміць чытачам „Газеты для вас” наступнае:**

**Гэты матэрыял яшчэ ў першым квартале бягучага года я занёс у рэдакцыю раённай газеты „Івацэвіцкі веснік”. Праз пэўны час мне стала вядома, што рэдактар Р. Радзюк наконт майго матэрыялу выказаўся так: „Хаванскі яшчэ не ведае, ці буду я публікаваць яго, а ўжо надрукаваў на машынцы...”**

**Прайшоў месяц, на працягу якога я не раз наведваў рэдакцыю, вёў размову з сакратаром газеты В. Рэчыцам і самім рэдактарам. І ўсё глуха, ні бэ, ні мэ, ні кукарэку. Прайшоў і другі месяц – нічога. У гэты ж час напісаў свае нататкі з II з’езда Беларускага таварыства інвалідаў, дэлегатам якога ад нашай раённай арганізацыі я быў. І тут праходзіць тыдзень, другі, трэці... Месца нататкам Хаванскага не знаходзіцца, як і „Запіскам”.**

**Такія адносіны Р. М. Радзюка да працы старэйшага журналіста, які 36 гадоў аддаў райгазеце, у тым ліку амаль 19 гадоў быў яе рэдактарам, мяне, проста мякка кажучы, здзіўляюць. Без дай-прычыны сучасны рэдактар адлучыў былога ад газеты, нібы святар адлучае грэшніка ад царквы.**

**Але ж я ні ў чым і ні перад кім не саграшыў...**

Ф. ХАВАНСКІ.

● *ВЕКАПОМНАЕ*

# КАНЕЦ ПРЫБЛУДЫ



ВАЙНА грымела ўжо недзе пад Мінскам, а мо і далей. Тым часам у маю родную вёску Сенькавічы даходзілі розныя чуткі, адна другой страшнейшыя: „Фашысты забіваюць нявінных людзей...”, „Немцы паляць паселішчы... асабліва пры лясных і ў лясных месцах, масава знішчаюць яўрэяў і цыганоў...”, „Выродкі чалавецтва гвалцяць беларускіх дзяўчат і жанчын,..” „Вунь і ў Хадорках згвалцілі на хутары дзяўчыну і яе маці і гэтак далей.”

Страшна! Жудасна!

Дайшла ў вёску і аптымістычная, абнадзейваючая людзей вестка: стаіць, не здаецца ворагу Брэсцкі гарнізон. Старажытная цытадэль ужо больш за два тыдні пагеройску змагаецца на заходніх рубяжах беларускай зямлі. Значыць, ёсць сілы, якія здольны процівастаяць ненавіснаму ворагу – гітлераўскім полчышчам.

А што ж там Сталін думае ў Маскве? Чаму ён аддаў ужо і працягвае аддаваць на здзекі ворагу савецкіх людзей? Што робіш ты, мудрэйшы з мудрых, думалі людзі, каб фашыстаў разбіць, як гаварылася да вайны, „малой кровью на его же территории”?

Адказу на такія пытанні тады ніхто не мог даць. Адказ на іх давялося чакаць больш за 1400 дзён і ночаў. На працягу іх грымела вайна, лілася людская кроў, у полымі пажараў гінулі безваротна матэрыяльныя і духоўныя здабыткі народа.

...Тым часам мае вяскоўцы-сенькаўцы жылі прыцішаным, прыгнечаным жыццём. Што заўтрашні дзень накануе – ніхто не ведаў. Той ці іншы селянін, які гадаваў на ўласнае скарыстанне парсючка, не мог яго закалоць, калі захацеў. Для гэтага трэба абавязкова было атрымаць спецыяльны дазвол у івацэвіцкай камендатуры ад нямецкага камісара. А ў дазволе тым указвалася: частку мяса здаць немцам у якасці „пастаўкі арміі вермахта”, пасля забою парсючка аблупіць і скуру здаць. Інакш па даносу солтыса ці паліцэйскага селяніна залічаць у „сабатажнікі”. А з такімі акупанты размаўлялі „на кароткіх хвалях” – расстрэл.

У вёсцы гаспадарылі солтыс Васіль Крывуша – паскудны чалавек, проста нейкі вырадак, паліцэйскія Іван Грушык, Канстанцін Шэлест, Юзік Казлоўскі і іншыя нямецкія паслугачы. Усіх іх вяскоўцы баяліся, цураліся, насілі ў сэрцах сваіх затоеную нянавісць. У вёску часцяком наязджалі „блудлівыя” фрыцы. У такія дні іхнія мясцовыя паслугачы „выкладваліся на ўсе сто”: бегалі, нібы бадзячыя сабакі, па хатах і збіралі яйкі, масла, сала, малако, дагаджаючы гэтым прышэльцам, частавалі іх самагонам, назойліва лезлі сваім гаспадарам у дружбу.

Далей хачу расказаць адну гісторыю, якая мае непасрэднае дачыненне да лёсу аднавяскоўцаў.

...Аднойчы з Косава праз Сенькавічы на Івацэвічы праязджаў невялікі атрад коннікаў. Было гэта напачатку восені 1941-га. Казалі, што вершнікі – нямецкія палявыя жандары. Фашысты былі пад добрай „мухай”, гарланілі, спрабавалі нешта напяваць. Відавочна, спыняцца ў вёсцы ў іх не было намеру, а проста хацелася прадэфіліраваць па паселішчу ў якасці „пераможцаў”.

Супраць дома, у якім жыў паліцэйскі Грушык (вулічная мянушка Маршалак), а цераз вуліцу была сядзіба майго дзядзькі Андрэя Хаванскага, атрад спыніў сенькаўскі прыблуда па прозвішчу Каспяровіч (вяскоўцы ў свой час яшчэ, як кажуць, пры Польшчы, далі яму мянушку „Татарын”). Скарагаворкай ён пачаў размаўляць са старшым групы. І гаварыў на добрай нямецкай мове. А раней жа ад яго ніхто не чуў ні слоўца па-нямецку, хоць і жыў ён у вёсцы больш за дзесятак гадоў. Пры размове Татарын падаў афіцэру нейкую паперку, якую той узяў і паклаў сабе ў кішэню. На тым і разышліся: вершнікі-жандары паехалі сваёй дарогай, а Каспяровіч хуценька патэпаў па гразі ў бок свайго дома. Нібы нічога тут, на вясковай вуліцы, не адбылося.

На самай жа справе нешта адбылося. І не абы што...

Трэба ж было здарыцца так: у той менавіта момант, калі Татарын размаўляў з афіцэрам жандараў і перадаваў яму паперу, па ўзбоччу вуліцы паціху праходзіў сусед майго бацькі Герасім Лось. Ён добра ведаў Каспяровіча-Татарына, хвацкага сельскага сталяра і дзіву даўся, што той размаўляе з немцамі на іхняй мове. Спаймаў стары сваім вухам сэнс размовы і зразумеў: справа – дрэнь.

...Герасім Лось (па вулічнаму Арчэй) у 1914 годзе быў салдатам царскай арміі, ваяваў з кайзераўцамі на Заходнім фронце. Пры адступленні рускіх трапіў у палон. Доўгі час знаходзіўся ў Германіі на правах нявольніка. Там і навучыўся размаўляць па-нямецку, разумець, што і аб чым гавораць паміж сабой немцы. І вось, праходзячы міма спыніўшыхся конных жандараў, менавіта зараз яму спатрэбілася веданне нямецкай мовы. Ён зразумеў сэнс размовы, зразумеў прадажны матыў слоў Каспяровіча.

Адразу зайшоў да майго бацькі.

– Што я пабачыў вось толькі што, Лярка, – з няскрытым хваляваннем пачаў расказваць Герасім, – што я пачуў, браце?.. Не паверыш, калі скажу...

– Ну, кажы, кажы хутчэй, што там на сяле за навіну ты пачуў? Можа вестка радасная? Га?

– У тым жа і ўся справа, што дрэнная навіна! – І выпаліў, нібы робячы неабвержны свой прысуд: – Татарын наш здраднік, нямецкі шпівон! Вось хто такі наш сталяр...

– Што ты чаўпеш, суседзе. Адкуль ты гэта ўзяў, скажы, на міласць боску...

– Чаўпеш, узяў.., – перадражніў Ларыёна Герасім. – Бачыў, толькі што немцы-коннікі праехалі? Ну, дык іду гэта я з таго канца і недзе супраць дома Грушыка-паліцэйскага спыняе тых коннікаў... хто ты думаеш? Татарын. Тут і я якраз іду міма. Чую: ён вітае іх, як слуга фатэрлянда, які даўно жыве на чужыне па... заданню. Я спаволіў хаду, наваструў вушы, а ён тым часам гаворыць пра вясковых актывістаў, называе некаторых па прозвішчу і падае афіцэру іх спіс. Вось што, Лярка, я чуў на свае вушы, – закончыў свой аповяд Герасім. – Татарын, несумніўна, нямецкі шпег, шпівон!

– Хто б мог падумаць, – быў адказ бацькі.

Дык хто ж ён такі, той „Татарын”?

...У вёсцы Сенькавічы чалавек па прозвішчу Каспяровіч (мясцовае, беларускае прозвішча) паявіўся, як кажуць, пры паляках. Мабыць, недзе ў пачатку 30-х гадоў. І паяўленне яго нікога тады не здзівіла: гаворка простая, сялянская, . прозвішчы такія ёсць у Рацкевічах, Косаве. Да таго ж чалавек валодаў патрэбнай спецыяльнасцю – быў адмысловым сталярам. Мог зрабіць вокны, дзверы і шмат што іншае па сталярцы. У вёсцы ён так і паявіўся як вандроўны сталяр, з небагатым наборам інструменту.

Я не памятаю ў драбніцах, як Каспяровіч пачаў „абжываць” маю родную вёску. Ведаю толькі дакладна, што прыстаў ён, так бы мовіць, у прымы да адзінокай незамужняй жанчыны Мар’яны. Праз пэўны час на заходнім заселлі вёскі, у метрах трохстах ад дарогі пабудаваў сабе новы хвацкі дом. Абсталяваў там добрую сталярню. Жыў ціха, непрыкметна. Старанна выконваў заказы сялян па вырабу сталяркі. Праўда, бывала, што адлучаўся ён з дому на тыдзень і болей. Куды зыходзіў? А каго гэта магло цікавіць? Калі ж хто заходзіў у час яго адсутнасці даведацца аб сваім заказе, то Мар’яна казала: „Пайшоў мой на Руду, у Аляксейкі... шукаць заказчыкаў”.

Сядзібу тую людзі з цягам часу сталі называць чамусьці „Сядзібай Мар’яны Лясковай”. Дзяцей у яе штосьці не паявілася. Так і пражыла тая „пара” да апошняга часу, г. зн. да сустрэчы Татарына з немцамі.

XXX

ПОЗНІМ вечарам, калі настала суцэльная цемень, у вакно дома Мар’яны Лясковай ціхенька пастукалі. Гаспадар падышоў да акна, спытаў: „Хто там?..”

– Хозяин, – адазваўся прыцішаны голас звонку, – дайте что-либо поесть и... кружечку воды...

У пярэдняй дома запалілі лямпу. Татарын ведаў, што начамі на Усход прабіраюцца акружэнцы. „Вось і яшчэ адзін ці двое, згаладнеўшых, ідуць да сваіх”, – падумаў ён. Адрэзаў ад бохана добрую лусту хлеба, узяў яе пад паху, зачарпнуў у вядры кубак вады, выйшаў у сені, адчыніў дзверы на вуліцу. Там яго сустрэлі трое, зачынілі за ім дзверы, прынялі хлеб і кубак. Тут жа ён атрымаў у рот кляп і... знік.

Мар’яна, пачакаўшы мужа хвілін пяць, узяла ў рукі лямпу і выйшла ў сені. Дзверы на двор былі зачынены, за імі – нічога і нікога не чутна. Пры святле лямпы на падлозе ў сенях яна ўбачыла аркушык паперы. На ёй было напісана: „Об уходе мужа – молчать!”

...На поўнач і паўночны захад ад Сенькавіч у той час, аб якім ідзе расповяд (1941 г.), цягнуўся добры такі абшар забалочанага алешніку, які служыў выпасам для сялянскіх кароў. Той абшар межаваў з былым юндзялоўскім лесам. Недзе якраз пасярэдзіне яго была невялікая паляна сухадолу, густа парослая папараццю, зрэдку сустракаўся малiннік. Гэтае ўрочышча сенькаўцы называлі (дый цяпер так іменуюць) „Маркоўскі груд”.

Менавіта там, на апісаным вышэй месцы – Маркоўскім грудзе, – недзе праз тыдзень, а можа і болей пасля „ухода” Татарына з дому, здарылася нешта незвычайнае. Каровы, якія там пасвіліся, раптам усчалі дзіка раўці. Падняўся страшны шматгалосы жывёльны вэрхал. (Мне, некалішняму сенькаўскаму пастуху, добра вядома, што значыць роў каровы ў чарадзе. Дастаткова адной натрапіць на нешта такое, што ёй не спадабаецца – напрыклад, свежы воўчы памёт ці якое-небудзь падла – як яна тут жа набычыцца, пачне біцьграбці капытам зямлю і падае своеасаблівы сігнал. Не, гэта не звычайнае рыканне каровы, а менавіта дзікі роў. Горш усяго – жывёла крывава бораца).

Дык што ж паслужыла, што каровы ўзнялі вэрхал на Маркоўскім грудзе? Аказалася, рагулі не без прычыны ўзбударажыліся. Яны натрапілі там на труп чалавека, які ляжаў у папараці каля маладой елкі. Ад яго несла смуродам.

Гэта быў труп Татарына.

Калі аб „знаходцы” на Маркоўскім грудзе стала вядома ў Сенькавічах, тут і Мар’яна Ляскова, як кажуць, забегала. Відавочна, ведаючы штосьці аб чорным нутры мужа, яна звярнулася да солтыса, а затым паведаміла немцам у Івацэвічах аб сабачай яго смерці. Неўзабаве і жандары з’явіліся ў вёсцы. Былі арыштаваны некалькі чалавек, былых актывістаў сельвыканкама, у тым ліку і наш сусед Апанас Езапчук, родны брат жонкі майго брата Антона. (Дарэчы сказаць, Апанас быў паранены ў нагу пры расстрэле польскай паліцыяй палітычнай дэманстрацыі ў Косаве ў лютым 1927 года).

У вёсцы па просьбе родзічаў арыштаваных пайшоў збор подпісаў сялян у абарону забраных у Івацэвічы. У сваёй петыцыі да нямецкіх уладаў сяльчане найлепшымі словамі гаварылі аб нявіннасці адлучаных ад дзяцей, ад сем’яў і паручаліся за іхнюю „прыхільнасць да нямецкіх парадкаў”. Значную ролю ў вызваленні арыштаваных адыграў былы сенькаўскі настаўнік, польскі немец Кароль Сікора. Ён жыў на той час у Івацэвічах, але добра ведаў вяскоўцаў, паколькі гады два жыў у Сенькавічах і вучыў іхніх дзяцей. Цяпер жа, у гіблую часіну, наколькі мог дапамагаў ім шляхам перамоў з фашыстамі ў камендатуры, у час допыту арыштаваных у якасці перакладчыка.

Некаторых арыштаваных адпусцілі дамоў. На вялікі жаль, добрага чалавека напаткаў чорны лёс. У Івацэвічах немцы арыштавалі самога Сікору, не пакінулі і яго жонку – літоўку. Вывезлі іх у Слонім. У Сенькавічах хадзілі чуткі, што там ён прайшоў праз рукі гестапа і быў павешаны, як здраднік рэйха. Тады ж у вёсцы пагаворвалі, што Кароля зганьбілі ў камендатуры і прадалі яго сенькаўскі солтыс Васіль Крывуша і паліцэйскія Іван Грушык і Канстанцін Шэлест.

**Феафан ХАВАНСКІ,**
**ветэран Вялікай Айчыннай вайны.**

● З ЗАЛЫ СУДА

# СЫН – ЗАБОЙЦА МАЦІ

Кампанія ў доме Ганны Кузьміч з в. Шчарбавічы сабралася цёплая: сын Антон, суседка Марыя Макоўская і сама гаспадыня. Сядзелі, перакульвалі чарку за чаркай, гаманілі. Калі пітво скончылася, М. Макоўская пайшла дадому. Праз некаторы час сюды зазірнулі суседзі. Убачылі: Ганна ляжыць на падлозе, падумалі, што п'яная, але прыгледзіліся лепей – мёртвая, да таго ж уся збітая.

Дома Антона не было. Ён змікіціў, што зрабіў непапраўнае і пабег да дзядзькоў, родных братоў маці, пераконваць іх, што ён не забіваў маці, гэта зрабіў нехта іншы. Але ж ісціна ў літаральным сэнсе ляжала на паверхні. Пабоі, якія ён нанёс блізкаму чалавеку, ні ад каго не схаваеш. Пад націскам неабвержных доказаў прызнаўся, што гэта ён адправіў на той свет маці. Жанчыну пахавалі, яе сын адпраўлены ў турму на 15 гадоў.

Жудасны выпадк: сын забіў сваю маці. Здавалася, гэта адзінае, надзвычайнае выключэнне ў шэрагу злачынстваў. Але вось у тым жа Баранавіцкім райсудзе зноў разглядалася падобная справа. Устаноўлена, што даглядчык жывёлы калгаса "17 верасня" Аляксандр Мароз п'яны прыйшоў дахаты, распачаў сварку і наўмысна нанёс маці мноства ўдараў рукамі і нагамі. Ад пабояў жанчына памерла, а яе 23-гадовы сын пакараны 13 гадамі турэмнага зняволення.

Дзве амаль аднолькавыя і страшэнныя справы толькі ў адным райсудзе.

А ў іншых судах?

Прыгадаем больш "дробязныя" няшчасці. У бальніцу дастаўлена жанчына з траўмай галавы. Яна тлумачыць, што пакалечылася падчас падзення з табурэта.Экспертыза ж устанавіла, што яна не ўпала, а нехта яе збіў, і такое зладзейства, як потым высветлілася, зрабіў яе сын. Тлумачэнне наконт табурэта – плод бязмежнай матчынай любові. Падобныя паведамленні, калі мацеркі атрымліваюць кухталі ад сыноў, так і стракацяць у міліцэйскіх зводках.

Фактаў дастаткова, каб рабіць абагульненні. Не пабаюся высновы, каб сказаць пра генетычныя змяненні ў свядомасці нашай нацыі.

У нас легіён палітычных партый і рухаў, аб'яднанняў і канфесій, саюзы моладзі простай і патрыятычнай. А хоць хто калі-небудзь заікнуўся пра тое, што ў грамадстве становіцца прывычнай з'явай – маці гінуць ад рук сваіх дзяцей?

Мы паслухмяна ходзім на рэферэндумы, млеем ад прэзідэнцкай дэмагогіі, перажываем за лёс мексіканскіх Марый. Нас цікавіць усялякая, гаворачы па-руску, преходящая чепуха. Але рэдка хто ўздрыгне, калі пачуе, што недзе сын забіў маці. Ці вартыя мы пасля гэтага лепшай долі?

**А. Лаўранюк**

# ПОЖИВЁМ – УВИДИМ с 9 по 13 июля

## СРЕДА, 9

**БТ**

7.30 Утренний коктейль
7.45, 19.10 "Музыкальная обойма"
7.50, 17.45 Экономикст
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.30 Новости
8.10 Художественная гимнастика
8.45 Туробъектив
9.15 Мультфильм
10.00 "Все дело в шляпе"
10.30 Бездельник
11.05 "Сенсация-2". Телесериал
11.55 Видимо-невидимо
15.15 Экран - абитуриенту
15.45 "Приключения Скиппи". Телесериал
16.10 Инваспорт Беларуси
16.30 "Города и люди"
17.00 Музыкальный антракт
17.10 Арсенал
18.20 "Сенсация-2". Телесериал
19.15 Тема дня
19.35 "Познай себя"
20.00 Ток-шоу "Это моя работа"
20.25 Авто-парк
20.40 Колыбельная
21.00 Панорама
21.45 Видеофильм
21.50 "Белая птица с черной меткой" . Худ. фильм
23.00 Концерт



8.00, 14.00, 17.00, 22.55 Новости
8.15, 17.20 "Девушка по имени Судьба"
9.00 "Тема"
9.40 "В мире животных"
10.15 Домашняя библиотека
10.30, 18.30 "Угадай мелодию"
14.20 Мультсериал
14.45 Кактус и К
14.55 До-ми-соль
15.15 Зов джунглей
15.40 "Гарри - снежный человек"
16.05 "...До шестнадцати и старше"
16.30 "Вокруг света"
18.00 Футбол. "Спартак" - "Ротор"
19.50 Погода
20.00 Время
20.40 "Сыщик". Худ. фильм



7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести
7.25 Лукоморье
7.50 Посмотри на себя
8.00 Православный календарь
8.05, 15.25 "Клубничка"
8.35 L-клуб
9.10, 18.00 "Санта-Барбара"
14.05 Эх, дороги!
14.45 Парламентарий
15.10 Ваше право
16.15 Там-там новости
16.25 Лукоморье
16.50 Посмотри на себя
17.05 Россияне
17.20 Избранные
19.35 Добрый вечер
20.20 "Достояние Республики". 2-я серия
21.40 Мультфильмы
22.35 Царская ложа

## ЧЕТВЕРГ, 10

**БТ**

7.30 Утренний коктейль
7.45, 18.40 "Музыкальная обойма"
7.50, 17.45 Экономикст
8.00,13.00, 15.00, 18.00, 0.05 Новости
8.10 Авто-парк
8.20 Вертикаль
8.45 Телебом
9.15 Мультфильм
9.25 "Неоткрытые острова". Худ. фильм
10.30 Музыка без границ
10.55 Гости в дом
11.25 Уникум. Игра-тест
12.00 Музыкальный салон
12.40 Док. фильм
15.15 Экран -абитуриенту
15.45 "Приключения Скиппи". Телесериал
16.10 Мультфильмы
16.30 "Куда пойти учиться?"
17.00, 20.25 Музыкальный антракт
17.10 "Тема с вариациями, или 30 минут с А.Ярмоленко"
18.15 Творцы
18.50 "Славянский базар"
19.05 Тема дня
19.25 Видеофильм
20.05 Резерв
20.10 Сделано в Беларуси
20.40 Колыбельная
21.00 Панорама
21.50 Прогноз погоды
22.05 "Одинокая женщина желает познакомиться". Худ. фильм
23.35 "Крок"
0.15 КВН



8.00, 14.00, 17.00, 23.25 Новости.
8.15, 17.20 "Девушка по имени Судьба"
9.00 Футбол. "Спартак" - "Ротор"
9.50 "Клуб путешественников"
10.35 Домашняя библиотека
10.40 Смак
14.20 "Последний лепесток". Мультфильм
14.45 До-ми-соль
15.15 "Лего-го"
15.40 "Гарри - снежный человек"
16.05 "...До шестнадцати и старше"
16.30 "Вокруг света"
18.00 Погода
18.05 Час пик
18.30 "Джентльмен-шоу"
19.00 "Моя семья"
19.45 "Спокойной ночи, малыши!"
20.00 Время
20.40 "Любовь последнего рыцаря". Худ. фильм
22.55 "Магия: мир сверхъестественного"



7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести
7.25 Лукоморье
7.50 Посмотри на себя
8.00 Православный календарь
8.05, 15.25 "Клубничка"
8.35 Бесконечное путешествие
9.10, 18.00 "Санта-Барбара"
14.05 Эх, дороги!
14.45 На пороге века
15.10 "Темная" для..
16.15 Там-там новости
16.25 Лукоморье
16.50 Посмотри на себя
17.05 Россияне
17.20 Люди, деньги, жизнь
19.35 Добрый вечер
20.20 "Ловушка для одинокого мужчины". Худ. фильм
22.35 "Славянский базар"
22.45 Музыкальная история

## ПЯТНИЦА, 11

**БТ**

7.30 Утренний коктейль
7.45, 18.45 "Музыкальная обойма"
7.50, 17.45 Экономикст
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.20 Новости
8.10 Прогноз погоды
8.20 Родное слово
8.50 Бархатный сезон
9.20 "Переход"
9.50 Мультфильмы
10.15 "Славянский базар"
10.25 К/м худ. фильм
11.00 Арт-клуб
11.40 "Канат". Телеспектакль
13.55 "Зорная ростань"
15.15 "Приключения Скиппи". Телесериал
15.40, 17.10 Резерв
15.45 Усадьба
16.15 Творцы
17.00 Музыкальный антракт
17.15 Концертный сезон
18.15 Колесо времени
18.35 Летний день села
18.50 "Славянский базар"
19.00 Тема дня
19.15 Международный курьер
19.45 Панорама
20.20 "Славянский базар"
21.55 "В джазе только девушки"
22.20 Резерв
22.30 "Длинная предпасхальная пятница". Худ. фильм
0.30 Акколада



8.00, 14.00, 17.00, 22.15 Новости
8.15, 17.20 "Девушка по имени Судьба"
9.05 "Моя семья"
9.50 "Пока все дома"
10.25 "Играй, гармонь любимая!"
14.20 "Оливер Твист". Худ. фильм
16.05 "50 х 50"
16.30 "Вокруг света"
18.10 Погода
18.15 Человек и закон
18.45 "Поле чудес"
19.45 "Спокойной ночи, малыши!"
20.00 Время
20.40 "Строго на юг". 2-я серия
21.30 Взгляд
22.25 "Придурки на каникулах". Худ. фильм
0.10 Пресс-экспресс



7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести
7.25 Лукоморье
7.45 Посмотри на себя
8.00 Православный календарь
8.05, 15.25 "Клубничка"
8.35"Аншлаг"
9.10, 18.00 "Санта-Барбара"
14.05 Эх, дороги!
14.45 Золотая карта России
15.10 Ничего, кроме..
16.15 Там-там новости
16.25 Лукоморье
16.45 Посмотри на себя
17.05 Россияне
17.20 Парламентский вестник
19.35 Добрый вечер
20.20 "Славянский базар"
22.35 "Славянский базар"
22.45 Частная коллекция
23.15 Товары - почтой

## СУББОТА, 12

**БТ**

7.30 Утренний коктейль
7.50, 17.45 Экономикст
8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.45 Новости
8.10 Здоровье
8.40 Все про все
9.05 Остров вдохновения
9.20 "Под углом 23,5 градуса"
9.45 Международный курьер
10.15 "Славянский базар"
10.25 Судьба моя и надежда
10.55 Регион
11.30 "Все нормально, мама!"
12.05 Макаенка, 9
12.25 Многоголосие
13.10 Телеспорт
13.40 "Дамы приглашают кавалеров". Худ. фильм
15.10 "Приключения Скиппи". Телесериал
15.35 "Все мы родом из детства"
16.30 "Оставайтесь с нами"
17.00 Музыкальный антракт
17.10 Творцы
18.15 Белорусский Дом
18.50 "Славянский базар"
19.00 Тема дня
19.25 "Риск-версия". Телеигра
19.50 Галерея
20.20 История любви
20.40 Колыбельная
21.00 Панорама
21.50 Теленавигатор
22.05 "Музыкальная обойма"
22.20 Третий тайм
22.45 Видимо-невидимо



7.00 "Выстрел на перевале Караш". Худ. фильм
8.40 Лотто-Миллион
8.45 Домашняя библиотека
9.00, 14.00, 17.00 Новости
9.10 Слово пастыря
9.30 Утренняя почта
10.05 "Каламбур"
10.40 Смак
11.00 "Возвращение Третьяковки"
11.25 "Однолюбы". Худ. фильм
12.45 Концерт
13.25 "Вологда: между прошлым и будущим"
14.20 "Очевидное - невероятное"
14.45 Мультфильм
15.40 В мире животных
16.15 "Колесо истории"
17.20 Концерт
18.45 Погода
18.55 "Строго на юг". 3-я серия.
19.45 "Спокойной ночи, малыши!"
20.00 Время
20.55 "Максим Перепелица". Худ. фильм
22.40 "Сид и Нэнси". Худ. фильм



7.00 Утренний экспресс
7.55 Товары - почтой
8.05 "Меморина". Телеигра
8.30 Клуб "Адреналин"
8.45 Доброе утро, страна!
9.30 Пилигрим
10.00 Вести в одиннадцать
10.15 "Как много девушек хороших..."
10.55 "Славянский базар"
11.05 Если бы знать!
11.45 Анонимные собеседники
12.15 Мультфильмы
12.30 Караоке по-русски
13.00 Вести про..
13.25 "Оп-центр". 3-я серия
14.20 Праздник "МК"
14.45 Двойной портрет
15.15 Бесконечное путешествие
15.45 Прощальный тур И.Кобзона
16.00 Легенды Большого
16.55 Футбол. "Локомотив" - "Антальяспор"
19.00 Вести
19.35 Сам себе режиссер
20.10 Субботний вечер с ...
21.35 Му-Муки творчества
21.55 Совершенно секретно
22.50 Репортер
23.05 Ночная жизнь городов мира
23.30 "Славянский базар"
23.40 Программа"А"

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 13

**БТ**

8.00 "Коктейль по воскресеньям"
8.55 Телебом
9.20 "Мультиклуб"
9.50 Вершина мира
10.15 "Славянский базар"
11.05 Туробъектив
11.35 "Война в воздухе"
12.00 "Славянский базар-97"
13.35 Олимп
13.55 Сельчане
14.25 Приглашаем на "вячорки"
15.00 Новости
15.15 Бон тон
15.45 "Портреты". Сериал
16.15 "Оскар". Телеигра
16.45 "Шальные деньги". Худ. фильм
18.15 Бездельник
18.50 "Славянский базар"
19.05 Ток-шоу "Карамболь"
19.35 Резерв
19.40 Колыбельная
20.00 Резонанс
20.45 Прогноз погоды
21.00 "Славянский базар-97"
23.00 Спортивный телекурьер
23.25 "Стреляй". Худ. фильм
1.15 Бархатный сезон



7.00 "Если ты прав". Худ. фильм
8.20 Мультфильм
8.55 Спортлото
9.00, 14.00, 22.25 Новости
9.10 "Непутевые заметки"
9.30 Пока все дома
10.20 Утренняя звезда
11.05 "Армейский магазин"
11.35 "Играй, гармонь любимая!"
12.05 Сельский час
12.30 "Одиссея команды Кусто"
13.20 Смехопанорама
14.15 "Приглашение к музыке"
14.45 Клуб путешественников
15.30 Мультфейерверк
16.30 Счастливый случай
17.20 "Один на один"
17.50 Футбольное обозрение
18.15 Погода
18.20 "Песня - 97"
19.05 "Строго на юг". 4-я серия
20.00 Время
20.35 Киноафиша
20.40 "Жандарм из Сен-Тропеза". Худ. фильм
22.35 "Жестокий выбор". Худ. фильм



7.00 Утренний экспресс
8.10 "Солти". Телесериал
8.35 "Славянский базар"
8.45 Доброе утро, страна!
9.30 Присяга
10.00 Вести в одиннадцать
10.15 Русское лото
10.55 Без пяти двенадцать
11.00 Книжная лавка
11.25 "У всех на устах"
11.40 Человек на земле
12.05 Новая Россия
12.30 21-й кабинет
13.00 Вести
13.25 "Оп-центр". 4-я серия
14.15 Сад культуры
14.40 "Чокнутый", "Аладдин"
15.35 Довгань-шоу
16.00"Репортаж ни о чем"
16.15 Футбол без границ
16.50 "Встречи на Воздвиженке". С.Шмидт
17.45 L-клуб
18.20 "Аншлаг" представляет
19.00 Вести
19.40 Старая квартира
20.45 "Городок"
21.15 "К-2". "Колизей"
22.10 У Ксюши
22.40 "Славянский базар"
0.20 Рек-тайм

*В программе возможны изменения*

● НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

# ЛІПЕНЬ

Назва самага спякотнага месяца года паходзіць ад слова "ліпа" – якраз у гэту пару наваколле напаўняецца водарам ліпавай квецені. У старажытнасці ліпень яшчэ называлі "чирвець", што дагэтуль захавалася ў некаторых заходнеславянскіх мовах і ў сучаснай беларускай назве папярэдняга месяца (чэрвень).

У Старажытным Рыме гэты месяц называлі проста квінтыліс (пяты), а потым пасля забойства Юлія Цэзара перайменавалі яго ў юліус. Назва гэта з некаторымі фанетычнымі змяненнямі захавалася ў многіх заходнееўрапейскіх і ў рускай мовах.

**12. Пятра і Паўла (Пятрок).** З гэтым святам звязана шмат прымет на будучае надвор'е і ўраджай: "На Пятра дождж – будзе жыта, як хвошч", "Калі Пётра з Паўлам плачуць, дык людзі праз тыдзень сонца не ўбачаць", "Калі на Пятра дождж, то на Новы год будзе мяцеліца". Лічылі, што іменна да гэтага дня кувае зязюля, а пасля замаўкае, "падавіўшыся" ячменным коласам. Адхіленні ад гэтай заканамернасці заўважалі: калі зязюля перад Пятром перастане куваць, то будзе восень халодная і ранняя зіма, калі на Пятра яшчэ кувае – восень будзе цёплая, а зіма "На Усіх Святых (1 лістапада) стане"; калі зязюля перастане куваць за два тыдні да Пятра, лета будзе ўраджайнае і спакойнае

**13. Паўпятро.** Дзень талакі. У гэты дзень не дазвалялася працаваць, можна было толькі дапамагаць іншым, але не за плату, а за пачастунак.

**14. Кузьма і Дзям'ян.** Свята каналёў. У некаторых раёнах гэты прысвяток называлі "Кузьма-сякач" і пазбягалі ў гэты дзень працаваць на полі і ў агародзе, каб святы не пасек усё градам.

**17. Андрэй (Андрэй Наліва).** "На Андрэя азімыя наліліся, а татка-авёс да палавіны дарос".

**21. Дзень Казанскай Божай Маці (Градавы дзень).** Засцерагаў ад нябесных стыхій, хвароб вачэй і галавы. У каталіцкім календары – **Данат.** "Святы Данат коскі точыць, сянцо косіць".

**25. Прокл.** У гэты дзень чакалі вялікіх рос, таму сена стараліся звесці да яго, каб не пагніло. У католікаў – прысвяток **Якуб.** "Які Якуб да паўдня – такая да снежня зіма".

**26. Ганна па каталіцкім календары.** "Ганна з дажджом – арэх з чарвяком", "Калі на Ганну раніца халодная, то і зіма будзе ранняя і халодная".

27. Каталіцкія **Сем спячых братоў.** Лічылася, што калі ў гэты дзень заладзіць дождж, то будзе ісці без перапынку сем тыдняў.

Чытайце і выпісвайце "Газету для вас"! Да 25 ліпеня можна падпісацца на яе ў любым паштовым аддзяленні, каб атрымліваць яе з 1 жніўня.

Падпісны кошт на два месяцы – 12 тысяч рублёў.

● ДЕТИ И МЫ

# “Помогите мне сделать это самому...”

Мария Монтессори, итальянский врач, психолог и педагог, создала принципиально новую систему дошкольного воспитания и обучения детей. По её методу действуют тысячи дошкольных учреждений во всем мире. Пустила было свои корни эта необыкновенно результативная методика и в дореволюционной России. В первые годы советской власти педагоги взялись всерьёз внедрять „Монтессори-школу“ в молодой республике. Но вскоре большевики поняли, что такие умные, смелые, раскованные граждане не нужны зароождающемуся режиму. Из них не сделаешь роботов с серпом, молотом и винтовкой, всегда и на всё готовых. И лишь в последнее время идеи и методология Марии Монтессори начали пускать ростки, пока в детских садах.

В отделе народного образования Барановичского горисполкома даже введены должности двух инструкторов. В Брестском педагогическом университете, в Минске есть целые кабинеты по внедрению этой системы. Все, кто захочет, может обзавестись литературой, инструкциями и методичками и начать это новое благородное дело. А я вам нарисую маленькую картинку одного дня группы-Монтессори в Барановичском детском саду № 69 отделения железной дороги. Детей в нее не подбирали. Обычные, как говорят, малыши. Без особых задатков гениальности. Более того, некоторые из трудных семей. Но на что они уже способны!

Дети пяти-шести лет свободно производят четыре арифметических действия с цифрами до ста, знают таблицу Пифагора, различают до 30 запахов, оттенков цветов, вкусовых качеств продуктов и прочее.

Итак, прошу в группу-Монтессори.

– „Помоги мне сделать это самому“ – девиз Монтессори, – вводит меня в курс воспитательница Тамара Петровна Парначева. – В особой среде обитания процесс обучения организован так, что ребенок сам решает, что ему делать, чем заниматься. А мы только направляем, подсказываем.

– Дети, к нам в гости пришел журналист. Он расскажет другим детям, как мы учимся и играем. Пригласите дядю Петю присесть.

И десяток стульчиков взметнулись над головками.

– Пожалуйста!

С трудом выбрав стульчик, чтобы никого не обидеть, уселся, достал блокнот, авторучку, приготовился, как мне показалось, к труднейшему интервью. Но... обо мне забыли. Малыши дружно разбирали коврики, уходили в зону покоя, расстилали их, усаживались и затихали.

Тамара Петровна поставила в середину круга свечу, зажгла её. Дети сосредоточились на мерцающем огоньке.

– Думайте о чем-то хорошем и день наш начнется с добрых дел.

Две минуты вдумчивого созерцания. Ну, право, маленькие йоги. Незаметно и я поддался настроению: каков будет мой рабочий день сегодня, после встречи с этими маленькими гениями... Счастья вам всем...

Свеча пошла по кругу.

– Пожелайте чего-нибудь хорошего своим папам, мамам, братикам.

– Чтоб моя бабушка не кашляла. А то таблеток нет...

– Чтоб мама получила получку...

– Чтоб сестричка Оля не упала. Она уже ползает по кровати...

– Хочу, чтоб дети не кричали, иначе горло будет болеть...– это уже воспитательница.

Бесхитростные, сердечные пожелания. Сколько в них тепла и заботы о близких людях!

В игровой зоне меня „превратили“ из журналиста в воспитанника. Сработала система Монтессори.

Сережа Николин „путешествует по карте.

– Дядя Петя, а вот здесь живет моя бабушка. А Ваша?

Оля Овчинникова решает примеры, написанные Тамарой Петровной. Уже пришла за третьим заданием.

– Идёмте, я покажу по таблице (Пифагора). Иду, смотрю, учусь.

Андрюша Желинский "проверяет" мои познания в цветоведении:

– Правда, крылья у самолета бывают малиновые? (Я ещё не успел определить, какими цветами он нарисовал картинку).

Виталик Шелемех и Павлик Шахмут в музыкальном уголке разбирают ноты „Кузнечика“. На пианино подбирают мелодию „Весёлых лягушек“. Получается. Доходчиво объясняют, как пользоваться пианино и цветными нотами.

Меня приглашают, а не водят за руку, со мной играют и учатся. Да так, что мне не приходится притворяться, подыгрывая детям.

...Катя Попкова поманила рукой: это же глаза? – указывает на Олю Овчинникову, лежащую на ковре, обложенную карточками „нос“, „рот“, „уши“, „колени“... Урок анатомии называется.

Ну просто поразил Андрюша Кривецкий. С завязанными глазами подбирает деревянные цилиндры разного диаметра к соответствующим отверстиям.

– Попробуйте. У Вас получится.

Пробую. Снимаю повязку, жду насмешливых усмешек.

– У меня тоже вначале не получалось, – утешает Андрей.

Завтрак и обед прошли на уровне высшей школы застольного этикета. И не просто „спасибо“, а с перечислением достоинств блюд. Съели все. Лишь Оля пояснила: я дома перекусила.

Подвел итоги своих наблюдений. Дети оперировали математическими действиями на уровне первого, второго классов, читали, проводили „лабораторные“ исследования материалов – песка, камешков, воды... Боже!По сравнению с воспитанниками обычных групп, эти действительно маленькие гении. А ведь так могли учиться все! Что мешает?

Из сказки-Монтессори мы перешли к суровой прозе жизни.

– За границей оборудование школы-Монтессори обходится в 20 тысяч долларов, – завидует зав. детсадом Галина Александровна Кендыш. – А мы почти все делаем своими руками. Но помогают и шефы – коллектив путевой машинной станции № 115. Барановичская фабрика игрушек готова выполнить любой заказ, но нечем платить. Нет денег.

– Если бы были средства в достатке, методику Марии Монтессори ввели бы во всех садах города, – утверждают инспекторы гороно Нина Григорьевна Кузьменкова и Светлана Викторовна Цвирко. – Кадры есть. И желающих заняться этой системой немало...

...Гуманная, ненасильственная педагогика – единственный путь воспитания морально, психически и физически здорового человека. И неужели мы, взрослые, – власть предержащие, бизнесмены, руководители, ворочающие триллионами денег, – не в состоянии наскрести в общем-то небольшие суммы на создание свободной, творческой личности.

**Пётр НАГНИБЕДА.**
**г. Барановичи.**

# ЛУННЫЙ КАЛЕНДАРЬ ОГОРОДНИКА И САДОВОДА НА ИЮЛЬ

Посев и посадка любых культур – недопустимы: 13, 20в–22у, 27.

Посев посадка и пересадка овощей – недопустимы: 9, 10

Посев, посадка культур, поспевающих над поверхностью земли, – лучшие дни: 14–16у; хорошие дни: 11–13, 18–20у.

Посев, посадка культур, поспевающих в земле, – лучшие дни: 22в–24у, 31; хорошие дни: 26в–28.

Посев огурцов, помидоров, капусты, – лучшие дни: 14, 15.

Посев многолетних луков (батун, слизун, шнитт и др.), чеснока, перца, – лучшие дни – 14–20у; хорошие дни: 24в–28, 31.

Посев петрушки листовой – лучшие дни: 18–20у; хорошие дни: 22в–24у, 26в–28.

Посев редиса (прикрыть черной пленкой с 20 до 8 часов утра) – лучшие дни: 22в–24у, 26в–28, 31; хорошие дни: 11–13, 16–20у.

Посев редьки – лучшие дни: 26в–28, 31; хорошие дни: 14, 15.

Посев репы – лучшие дни: 26в–28, хорошие дни: 11–13, 18–20у.

Посев салата листового – хорошие дни: 22в–28.

Посев укропа – лучшие дни: 9–13, 18–20у, хорошие дни: 29, 30.

Посев шпината – лучшие дни: 18–20у; хорошие дни: 22в–28.

Укоренение усов клубники – хорошие дни: 22в–26у, 29–31.

Посев анютиных глазок для рассады на следующий год – лучшие дни: 14, 15; хорошие дни: 22в–24у, 31.

Выкапывание луковиц нарциссов, тюльпанов – лучшие дни: 9–13.

Выкапывание луковиц гиацинта и клубнелуковиц крокуса – лучшие дни: 14, 15; хорошие дни: 22в–24у, 31.

Черенкование и укоренение многолетних цветов – лучшие дни: 9–13.

Культивация, прополка, опрыскивание, борьба с вредителями, обрезка усов клубники, вырезка поросли, подавление роста сорняков – лучшие дни: 20в–22у; хорошие дни: 6–10, 24в–26у, 29, 30; недопустимо: 14, 15, 22в–24у.

Полив любых культур – лучшие дни: 11–15, 22в–24у, 26в–28, 31.

Обрезка деревьев и кустарников (особенно косточковых) – недопустимо: 20; нежелательно: 15–19, 21–25.

Летняя окулировка плодовых деревьев – недопустимо: 20в–22у.

Подкормка минеральными удобрениями – лучшие дни: 11–15, 18–22у.

Подкормка органическими удобрениями – лучшие дни: 22в–24у, 26в–28.

Стимулирование омагниченной водой – лучшие дни: 20.

Пасынкование помидоров, формирование плетей огурцов, прищипка помидоров, перцев, баклажанов для ограничения роста – лучшие дни: 22; недопустимо: 19в–21.

Сбор зелени, овощей, ягод и фруктов для длительного хранения – лучшие дни: 24в–26у.

Сбор корнеплодов, за исключением картофеля, для длительного хранения – лучшие дни: 24в–26у, 29, 30; недопустимо: 16, 17.

Сбор раннего картофеля – хорошие дни: 16–19, 29, 30; недопустимо: 14, 15.

Сбор лекарственных растений (вечером до выпадения росы или утром, сразу, как роса просохнет) – "корешки" – хорошие дни: 5–9, 29–31; "вершки" – лучшие дни: 20; хорошие дни: 17–19, 21–23.

Сушка плодов и грибов – лучшие дни: 24в–26у.

Квашение, засолка – лучшие дни: 22в–24у.

Варка варенья, консервирование с термообработкой – лучшие дни: 20в–22у, 26в–28.

В календаре приняты условные обозначения: буквой "у" рядом с цифрой дня обозначена первая половина суток с 0 до 12 ч; а буквой "в" вторая половина суток с 12 до 24 часов.

● ЗДАРЭННІ

# “Вясёлы” адпачынак з трагічным канцом

На мінулым тыдні ў Івацэвічах хавалі 16-гадовую дзяўчыну, якая загінула ў аўтамабільнай аварыі ля вёскі Чамялы. Малады чалавек, які сядзеў за рулём інамаркі і якому цяпер прыдзецца трымаць адказ за гэтую аварыю перад судом, таксама прысутнічаў на пахаванні.

Прычына трагедыі, на жаль, ужо звычайная.Кампанія з чатырох хлопцаў і дзвюх маладзенькіх дзяўчат адпачывала ля вады, напэўна ж, частавалася моцным напоем. У такім узбуджаным стане шасцёрка вярталася ноччу дахаты, і малады вадзіцель не справіўся з кіраваннем аўтамабіля. Машына некалькі разоў перакулілася і толькі па шчаслівай выпадковасці (хоць якое ўжо тут шчасце!) не даляцела да вадаёма ў кювеце. Адна з дзяўчат, якія, дарэчы, удзвюх сядзелі на пярэднім сядзенні загінула. Астатнія з "вясёлай" кампаніі атрымалі няцяжкія траўмы.

# Дзік полю не таварыш

Раней у калгасе "Беларусь" Пінскага раёна не было такога вялікага ўрону ад набегаў дзікоў. Вядома, здаралася, што яны наносілі шкоду пасевам, але не ў такіх вялікіх маштабах, як цяпер. У выніку вельмі частага нашэсця на палі тут вясной знішчана 74 гектары азімага жыта, пашкоджана 90 гектараў яравых і 70 гектараў кукурузы, а таксама пацярпелі на 140 гектарах шматгадовыя травы. Лічбы гэтага ўрону пацвердзілі і спецыялісты, якія прыязджалі з абласнога цэнтра. А прыходзіць гэты дзікі статак сюды з паляўнічай гаспадаркі Целяханскага лясгаса, якая размешчана па суседству. Там мясцовыя егеры пільна нясуць сваю службу, не дапускаючы браканьераў і стварыўшы спрыяльныя ўмовы для хуткага размнажэння дзікага свінога пагалоўя.

Вось і думаюць цяпер кіраўнікі гаспадаркі разам з леснікамі, як зрабіць так, каб і прырода не пацярпела, і калгаснае дабро засцерагчы.

# Царскі штраф за цар-рыбу

Сом – адна з самых буйных прэснаводных драпежных рыб. Аддае перавагу глыбокім участкам рэк з галечным і камяністым грунтам і хуткай плынню. Ён пакуль не занесены ў Чырвоную кнігу рэспублікі, але з-за нашай неахайнасці і цягі да хімізацыі знаходзіцца пад пагрозай знікнення. Знаёмы рыбак з Івацэвічаў, які ведае толк у рыбалцы, сказаў, што апошні раз выцягнуў сома са Шчары ў 1960 годзе.

Да 29 ліпеня сом нерастуе і ў гэты час яго нельга турбаваць. Калі ж трапіцца на кручок, выпускаць назад у ваду ў жывым і непашкоджаным выглядзе незалежна, якія ў яго вага і памеры. Тых, хто забарону праігнаруе, чакае штраф – 300 тысяч рублёў за асобіну.

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 7 ліпеня ў 14.00.

Заснавальнікі У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас“. Тэлефон 2-12-29.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

Тыраж 1100 экз.
Заказ № 1568.